*Чаго не хапае Гродзенскаму дзіцячаму хоспісу? (Чытайце на 2-й стар.)*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 90 (4445)**

15 лістапада 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПРИНЦИПИАЛЬНО!

## Лукашенко собирается выставить счет России?

*Он считает оскорбительным, когда со стороны России в адрес Беларуси звучат обвинения в нахлебничестве.*

Обсуждая положение дел на белорусско-российской границе с главой ГПК Анатолием Лаппо и госсекретарем Совбеза Станиславом Засем, он отметил, что между пограничниками Беларуси и России проблем нет. Такая же история в отношениях военных и транспортников двух стран. Однако, когда все вопросы выводятся на правительственный уровень, неожиданно возникает множество вопросов.

«*Как результат, нас постоянно упрекают: «Мы чуть ли не содержим Беларусь. Она рухнет, если мы ее не будем дотировать, содержать». Надо посчитать, чего нам стоит защита совместной границы*», – цитируют Лукашенко naviny.by.

Глава государства также предложил напомнить партнерам о системе противовоздушной обороны: «*Они долго просили меня, чтобы мы сделали ее совместно. От Балтики до Черного моря мы сегодня работаем на Российскую Федерацию. Это тоже денег стоит, и не только денег. И мы всё равно нахлебники*».

ВАКАНСІІ

## Хто не застанецца ў Мінску без працы?

*У Мінгарвыканкаме распавялі, якія спецыяльнасці найбольш запатрабаваны на рынку працы сталіцы.*

Як паведамілі ў Камітэце па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, топ-10 спецыяльнасцяў выглядае наступным чынам:

інжынеры – працадаўцы заявілі 855 вакансій;
медсёстры – 751;
кухары – 684;
прыбіральшчыкі памяшканняў – 606;
урачы – 602;
вадзіцелі – 520;
прадаўцы – 479;
маляры – 417;
муляры – 389;
тынкоўшчыкі – 354.

За студзень–кастрычнік у службы занятасці сталіцы па садзейнічанні ў працаўладкаванні звярнуліся 13.639 чалавек, з іх 5565 беспрацоўных, паведамляюць naviny.by.

ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ

*У чарговы раз звяртаемся да ўсіх, у каго ёсць магчымасць прыняць удзел у дабрачыннай акцыі. Ваш высакародны крок адгукнецца шчырай удзячнасцю многіх і многіх людзей.*

## Каб у 600 бібліятэках была «Народная Воля»!



Не сакрэт: з-за мізэрных пенсій, невысокіх заробкаў многія людзі не маюць магчымасці падпісвацца на перыядычныя выданні. Ужо працяглы час назіраецца такая тэндэнцыя – расце колькасць грамадзян, якія, каб пачытаць газеты, ідуць у публічныя бібліятэкі. Зыходзячы з гэтага, рэдакцыя «Народнай Волі» ў канцы мінулага года разгарнула кампанію па зборы сродкаў для таго, каб **600** бібліятэк нашай краіны змаглі рэгулярна атрымліваць «Народную Волю». Водгукі, якія да нас даходзяць, самыя станоўчыя. Людзі з невысокім дастаткам удзячны нам і ўсім ахвярадаўцам за такі дабрачынны крок, кожны нумар газеты чакаюць з вялікім нецярпеннем.

І вось ужо поўным ходам ідзе падпіска **на першую палову 2020 года,** і нам нельга пакінуць бібліятэкі без «Народнай Волі» **у студзені–чэрвені.** На жаль, з уласнымі фінансамі ў рэдакцыі вялікі дэфіцыт (ад дзяржавы не маем ніякіх прэферэнцый). Таму мы абʼяўляем чарговую дабрачынную акцыю па зборы фінансавых сродкаў, з тым каб і ў наступным годзе **600** публічных бібліятэк атрымлівалі «Народную Волю». Але на гэты раз ахвяраванні вырашылі збіраць не праз краўдфандынг, а непасрэдна праз разліковы рахунак рэдакцыі.

Дапамажыце, калі ласка, – з такой мальбой звяртаемся да ўсіх, хто мае магчымасць працягнуць руку дзеля гэтай высакароднай справы. Вядома ж, перш-наперш наш зварот да кіраўнікоў бізнес-кампаній, фірм, прадпрымальніцкіх структур. У вырашэнні надзвычай важнай «бібліятэчнай праблемы» можаце ўзяць удзел не толькі вы самі, але і вашы супрацоўнікі. Заўважым: каб аформіць падпіску на «Народную Волю» на першую палову 2020 года для **600** публічных бібліятэк, неабходна сабраць каля **36.000** рублёў. Рады будзем ахвяраванням у любым памеры. Рэквізіты для пералічэння грошай (*з адзнакай «Падпіска для бібліятэк»*):

**Выдавецкае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Народная Воля»**

**220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а**
**УНП 100961759**
**банкаўскія рэквізіты:**
**р/р BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**у «Прыёрбанк» ААТ, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**

Адначасова хочам адзначыць: выказваючы шчырую ўдзячнасць усім патэнцыйным ахвярадаўцам, рэдакцыя газеты «Народная Воля» заўжды гатова наладзіць з вамі самыя цесныя стасункі. Рады будзем бачыць вас у нашым офісе па адрасе: Мінск, вул.Энгельса, 34а. Кантактны тэлефон – 8-017-328-68-71.

**Рэдакцыя газеты «Народная Воля».**

СІТУАЦЫЯ

## Як народнага абранніка Вабішчэвіча пазнаёмілі з заканадаўствам

*Кандыдат у дэпутаты па Лагойскай выбарчай акрузе №75 Ілля Дабратвор дамогся, каб яго канкурэнту вынеслі папярэджанне.*

*“Наведаўся ў горад Смалявічы і заўважыў, што на прыпыначным пункце, а таксама на ўваходных дзвярах будынка Смалявічскага райаддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва знаходзяцца агітацыйныя матэрыялы майго саперніка па акрузе, якія да таго ж пакуль яшчэ з’яўляюцца дзеючым дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, Пятра Вабішчэвіча,* – расказвае **Ілля Дабратвор**. – *Улёткі былі раскіданы і ў самім фондзе. Натуральна, што гэта парушэнне выбарчага заканадаўства. Я на фота зафіксаваў усе гэтыя факты і падаў скаргу ў акруговую выбарчую камісію”.*

На пасяджэнні камісія разгледзела скаргу Дабратвора і вынесла кандыдату ў дэпутаты **Пятру Вабішчэвічу** папярэджанне *“ў сувязі з парушэннем выбарчага заканадаўства ў частцы размяшчэння друкаваных агітацыйных матэрыялаў”.*

*“Для мяне было прынцыпова паказаць, хто сёння працуе ў парламенце і балатуецца туды другі раз запар,* – дадае Дабратвор. – *Людзі, якія не ведаюць нават дзеючае заканадаўства. Альбо ведаюць, але знарок яго парушаюць...”*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СКАНДАЛ

## «С первого дня досрочного голосования начинают накручивать явку»

*Председатель движения «За Свободу» Юрий Губаревич написал заявление в милицию с требованием возбудить уголовное дело по факту фальсификации данных голосования на избирательном участке №571 в Минске.*




«*На этом участке 12 ноября весь день находился наш наблюдатель Владимир Шило. По его словам, досрочно проголосовать сюда пришли 11 человек, а в протоколе комиссии указано 109 проголосовавших,* – сказал Ю.Губаревич. – *На следующий день я приехал с утра на этот участок. Заглянул в эту полупрозрачную урну – там лежат эти 11 бюллетеней. За ночь даже не вкинули [нужное количество]. Председатель избирательной комиссии отказывается от общения, и я вызвал милицию*».

По словам Губаревича, приехавший на вызов сотрудник милиции взял объяснения и оформил их на бланке об административном правонарушении, хотя политик настаивал на том, что произошедшее является уголовным преступлением.

«*Я написал заявление с требованием возбудить уголовное дело по статье 192 (нарушение законодательства о выборах) и 427 (служебный подлог). Это заявление у меня приняли*, – сказал лидер движения. – *Провести проверку элементарно – милиция тоже может заглянуть в урну для голосования и проверить журнал учета избирателей. Отмеченных там людей можно обзвонить и уточнить, голосовали ли они вчера*».

Губаревич сообщил, что наблюдатель движения «За Свободу» **Андрей Рогов**, который находится на избирательном участке №568 по адресу Гамарника, 8, также вызвал милицию и написал заявление с требованием о возбуждении уголовного дела в связи с тем, что в протоколе зафиксировано больше избирателей, чем реально пришло на участок.

«*Таких участков у нас тут с десяток* (речь о Восточном избирательном округе №107), *будем их объезжать и подавать заявления в милицию*, – сказал лидер движения «За Свободу». – *Не в первый раз такое на выборах происходит, когда с первого дня досрочного голосования комиссии начинают накручивать явку. Сотрудники милиции принимают заявления, но не хотят возбуждать уголовные дела*».

**Татьяна КОРОВЕНКОВА**
(БелаПАН).

НУ І НУ!

## Усе – з адной арганізацыі

Лідар Абʼяднанай грамадзянскай партыі **Мікалай Казлоў** даказаў, што хоць ва ўчастковыя выбарчыя камісіі прызначаліся людзі з нібыта самых розных арганізацый (Саюз жанчын, Чырвоны Крыж, БРСМ, «Белая Русь» і г.д.), але ў рэальнасці ўсе яны працуюць у адным месцы.

Сам М.Казлоў балатуецца па сталічнай Старавіленскай акрузе №105. Ён прапанаваў сваіх аднапартыйцаў ва ўчастковыя камісіі, сярод іх значыліся такія вядомыя людзі, як **Анатоль Лябедзька, Аляксандр Дабравольскі, Антаніна Кавалёва**... Але ў выніку ніводнага прадстаўніка АГП у гэтыя камісіі не ўключылі.

Такое рашэнне адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска Мікалая Казлова не задаволіла, і ён абскардзіў яго ў судзе, зрабіўшы запыт, каб даведацца, каго ж уключылі ў камісіі. Такія звесткі Казлову прадставілі, ён змог з імі дэталёва азнаёміцца. Адзінай умовай было неразгалошванне прыватнай інфармацыі (гэта значыць адрасоў і тэлефонаў сябраў камісіі). Усяго кіраўнік АГП атрымаў дадзеныя па 53 участках Цэнтральнага раёна Мінска

Аказалася, што амаль усе выбарчыя камісіі складзены з прадстаўнікоў адной і той жа ўстановы, прадпрыемства, хаця вылучаліся ад розных грамадскіх абʼяднанняў. Прычым у якасці старшыні камісіі звычайна выступае іх начальнік. Высветлілася, напрыклад, што на ўчастку для галасавання №483, які размешчаны ў Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі па адрасе Старавіленскі тракт, 41, выбарчую камісію складаюць 14 чалавек і ўсе яны працуюць у адной установе – «Белгеадэзія». Абсалютна ўсе члены камісіі выбарчага ўчастка №474, які месціцца ў гімназіі №50, – работнікі «Белавія».

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЗДАРЭННЕ

## Радыяцыйнае смецце

Учора на сметніку ля Мінска было зафіксавана перавышэнне радыяцыйнага фону.

Фон зашкальваў у смеццявозе, было вырашана выгрузіць яго змесціва, каб выявіць крыніцу, паведамляе прэс-служба МНС.

Выявілася, што павышаны радыяцыйны фон давалі чатыры пакеты, у якіх былі адпрацаваныя медыцынскія прэпараты: ёд-131 (клас небяспекі 4, перыяд паўраспаду складае 8 сутак).

Пакеты разам са змесцівам будуць утылізаваны ў адпаведнасці з інструкцыяй. Пагрозы для людзей і навакольнага асяроддзя няма.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

КОГДА ВЕРСТАЛСЯ НОМЕР

## За два дня досрочно проголосовало 16,2 процента избирателей

Вчера на сайте Центризбиркома были представлены оперативные данные по досрочному голосованию на выборах депутатов Палаты представителей 12 и 13 ноября. За два дня бюллетени для голосования получили 16,2 процента избирателей: 4,69 процента проголосовало в первый день, 11,51 – во второй. Общее число избирателей, включенных в списки, по стране составляет 6.886.269 человек.

Иван ШИРОКИЙ.

МУДРЫЕ МЫСЛИ



*Не бойся врагов – в худшем случае они могут тебя убить.*

*Не бойся друзей – в худшем случае они могут тебя предать.*

*Бойся равнодушных – они не убивают и не предают. Но только с их молчаливого согласия существуют на земле предательство и убийство.*

***Бруно ЯСЕНСКИЙ.***

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ




# «Палесдрук» не надрукаваў улёткі апазіцыйнага кандыдата

*Дзяржаўнае акцыянернае таварыства «Палесдрук» 12 лістапада паведаміла праз тэлефон кандыдату ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі па Гомельскай-Цэнтральнай выбарчай акрузе №33* ***Уладзіміру Няпомняшчых*** *(на фота), што не можа надрукаваць ягоныя перадвыбарныя плакаты і ўлёткі «па тэхнічных прычынах».*

У яго склалася ўражанне, што супрацоўнікі «Палесдруку» наогул хацелі пазбавіцца ад заказа, называючы непрымальныя тэрміны выпуску агітацыйнай прадукцыі. А калі кандыдат пагадзіўся, то суткі думалі і ўрэшце спасlaліся на тэхнічныя прычыны, параіўшы шукаць менш загружаныя малыя прадпрыемствы. Пэўна ж, не ведалі, што да гэтага акурат дзве невялічкія прыватныя паліграфічныя фірмы таксама не адважыліся друкаваць такія ўлёткі.

*«Відаць, і адных, і другіх напалохала тое, што ва ўлётцы першым пунктам маёй праграмы значыцца ініцыяванне імпічменту Лукашэнкі і ўтрымліваецца заклік галасаваць за мяне, за Беларусь... Іншага тлумачэння адсутнасці тэхнічных прычын у мяне няма»,* – кажа Уладзімір Няпомняшчых.

Ва ўлётцы і на плакаце, паводле яго слоў, зусім мала тэксту. Апроч імпічменту і згаданага заклiку ёсць яшчэ прапанова выбаршчыкам далучацца да каманды перамен, бо АГП выступае за еўрапейскі шлях развіцця.

Нагадаем, што 22 кастрычніка тэлерадыёкампанія «Гомель» не пусціла ў эфір тэлеканала «Беларусь-3» і на радыё перадвыбарнае выступленне Няпомняшчых.

# Нябачныя выбаршчыкі галасуюць сотнямі

*Ужо некалькі дзён ідзе датэрміновае галасаванне. Актывісты АГП узялі пад пільны кантроль 38 выбарчых участкаў. Адпаведныя ўчастковыя камісіі ў Цэнтральнай акрузе №33 паказалі, што за два дні прагаласавалі ад 2 да 10 працэнтаў выбаршчыкаў, якія ўнесены ў спісы.*

*«Я не сказаў бы, што сёлета датэрмінова галасуе больш людзей, чым на папярэдніх парламенцкіх выбарах у 2016 годзе, хоць афіцыйна ў рэгіёне паказваюць вышэйшыя лічбы,* – дзеліцца першымі вынікамі назірання іх арганізатар **Васіль Палякоў**. – *Найбольш высокая актыўнасць на ўчастках, дзе кампактна пражываюць студэнты. На 8 кантралюемых намі ўчастках у незалежных назіральнікаў і афіцыйных выбарчых камісій істотна адрозніваецца колькасць гараджан, якія ўжо ўзялі ўдзел у датэрміновым галасаванні».*

Паводле слоў Палякова, асабліва здзівілі звесткі з ўчастка №24, які месціцца ў ЖЭУ-25 на вуліцы Галавацкага. Участковая камісія паказала ў пратаколах, што тут датэрмінова прагаласавалі за два першыя дні 289 чалавек, а назіральнікі зафіксавалі толькі 69.

На ўчастку №34 у сярэдняй школе №72, што на вуліцы Мазурава, камісія паказвае, што прагаласаваў 131 выбаршчык. Назіральнікі налічылі толькі 60.

Значна разыходзяцца звесткі пра колькасць тых, хто ўзяў удзел у датэрміновым галасаванні, і на ўчастках №11 і №12. Адзін адкрыты ў гарадскім цэнтры культуры, другі – у 10-й гімназіі на вуліцы Карла Маркса. Лічбы ў камісій і назіральнікаў адрозніваюцца адпаведна: 259 і 142, 180 і 126.

*«Я напісаў заяву ў пракуратуру, каб праверылі, адкуль бяруцца на ўчастку нябачныя выбаршчыкі»,* – кажа сталы назіральнік з участка №12 **Аляксандр Гехт.**

# Гомельскі палітык зняўся з выбараў

*Вылучэнец АГП* ***Уладзімір Кацора*** *зняўся з выбараў –14 лістапада падаў адпаведную заяву ў акруговую выбарчую камісію.*

*«Не мае сэнсу надалей удзельнічаць у гэтай кампаніі, бо вынік ужо даўно вядомы»,* – кажа Уладзімір.

Перад завяршэннем сваёй палітычнай кампаніі Кацора зладзіў пікет пад бел-чырвона-белымі сцягамі і правёў у ДК «Гомсельмаша» развітальную сустрэчу з мясцовымі выбаршчыкамі.

Сустрэча была нешматлікай, але дужа эмацыйнай. Часам нават нервовай.

*«Вось вы родам з Шарпілаўкі, з чырвоным дыпломам скончылі інстытут,* – пачала, звяртаючыся да Уладзіміра Кацоры, немаладая кабета. – *А побач з вашай вёскай Суслаўка была, якую спалілі. І не толькі яе. Ведаеце, пад якімі сцягамі і з якімі нашыўкамі на рукавах гэта рабілася?»*

*«Лукашэнка быў адзін з тых, хто ўносіў бел-чырвона-белы сцяг у Вярхоўны Савет. І гэты сцяг быў дзяржаўным да 1995 года. Трэба ведаць сваю гісторыю»,* – тлумачыў кандыдат.

*«Хто вам даў права крытыкаваць Лукашэнку, «Гомсельмаш»? І што гэта за рух «За Свабоду»? Якой свабоды вы захацелі?»* – не сунімалася кабета.

Інтэлігентнага выгляду мужчына ў чорным дэмісезонным паліто дзелавым тонам заўважыў, што сабраліся, маўляў, не для крытыкі, а каб пачуць, якія рашэнні трэба прымаць у эканоміцы, сферы бізнесу, адукацыі.

*«Я не буду ўжо ніякіх праблем вырашаць – я здымаюся з выбараў,* – адказаў Уладзімір Кацора. – *Калі б людзі ў свой час сказалі, што гатовы дапамагчы, можна было б і пазмагацца. А зараз у выбарчых камісіях прадстаўнікоў апазіцыйных партый няма і ўжо не будзе. Назіральнікаў – па пяць чалавек на кожным участку – таксама не хапае. Перамагаць можна толькі супольна»,* – падкрэсліў апазіцыйны актывіст і яшчэ раз нагадаў, што спыняе свой удзел у палітычнай кампаніі пад назвай «выбары».

**Падрыхтаваў Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

# Ірына Давідовіч дайшла да суда

*Днямі Гродзенскі абласны суд не задаволіў скаргу кандыдата ў дэпутаты па Іўеўскай выбарчай акрузе №54 Ірыны Давідовіч на рашэнне акруговай выбарчай камісіі аб вынясенні ёй папярэджання.*

Кандыдату ад АГП Ірыне Давідовіч папярэджанне акруговай камісіяй было вынесена "ў сувязі з парушэннем правядзення перадвыбарнай агітацыі". Камісія палічыла, што кандыдат парушыла патрабаванні закона, размясціўшы ў сваіх акаўнтах сацыяльных сетак відэаролік з уласным выступленнем.

Спробы абскардзіць папярэджанне ў абласной і цэнтральнай выбарчых камісіях вынікаў не далі, і тады Давідовіч звярнулася ў суд.

У судзе яна патлумачыла, што размясціла відэаролік у інтэрнэце па прычыне таго, што яе выступленне, якое запісана на абласным тэлебачанні, не было паказана ў эфіры. З абласной тэлерадыёкампаніі яна атрымала адказ, што яе выступленне ўтрымлівае заклікі і меркаванні, якія могуць выклікаць сацыяльную варожасць. У лісце з тэлерадыёкампаніі прыводзіліся канкрэтныя моманты, якія, на іх погляд, могуць прывесці да сацыяльнай варожасці. Вось яны: *"...усё, што робіцца ўладай, мае адну мэту: ператварыць людзей у рабоў. Рабы маюць толькі адзіны выхад – уцячы ў іншую краіну, дзе быць чужымі, але адчуваць сябе лепш, чым на радзіме". "...І як тут не ўпамянуць Беларускую АЭС. Будоўля крывымі рукамі з адной мэтай папасвіцца на крэдытах – гэта пагроза ўсім нам, недарэкам і бедалагам, якіх Чарнобыльская аварыя 1986 года абсалютна нічаму не навучыла".*

Менавіта гэтыя выказванні палічылі недапушчальнымі ў выступленні і кіраўнікі акруговай і абласной выбарчых камісій, якія ў судзе настойвалі на тым, што падобныя выказванні могуць прывесці да сацыяльнай варожасці.

Адметным быў факт, што ў судзе старшыня Іўеўскай акруговай выбарчай камісіі Анатоль Букліс прызнаў факт, што акруговая камісія ў поўным складзе не праглядала відэаролік, за які і было вынесена папярэджанне. І сам ён, з яго слоў, відэаролік цалкам не бачыў.

Давідовіч настойвала на тым, што яе выказванні носяць крытычны характар, а не абразлівы і не могуць выклікаць сацыяльнай варожасці ў грамадстве. Да таго, на думку Давідовіч, папярэджанне, якое яна атрымала, парушае міжнародныя пагадненні, у прыватнасці, міжнародны пакт "Аб грамадзянскіх і палітычных правах", які быў прыняты ААН у 1966 годзе.



У судзе быў паказаны відэаролік кандыдата Давідовіч, які яна размясціла ў сваіх акаўнтах сацыяльных сетак. Ніякіх эмоцый у прысутных ён не выклікаў.

Суд, выслухаўшы бакі і прагледзеўшы відэаролік, прыйшоў да высновы, што ў звароце Давідовіч утрымліваюцца катэгарычныя меркаванні і заклікі, якія пабуджаюць да сацыяльнай варожасці, а таксама маюць крайне негатыўную і неаб'ектыўную ацэнку працэсаў і падзей, якія адбываюцца ў грамадстве. Такое выступленне кандыдата ў дэпутаты Давідовіч перад сваімі выбаршчыкамі, паводле меркавання суда, было здзейснена з парушэннем заканадаўства, а таму ў задавальненні скаргі ёй было адмоўлена.

*"Нічога іншага ад суда я і не чакала,* – сказала "Народнай Волі" Ірына Давідовіч. – *Падобныя рашэнні судоў мы слухаем на працягу апошніх 25 гадоў, і нічога новага для сябе я не адкрыла. Час яшчэ пакажа, на чым баку была праўда".*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**На фота: Ірына Давідовіч у судзе.**

ПРАБЛЕМА!

# Рабі нечаканае, рабі, як не робіць ніхто...

*Гродзенскі дзіцячы хоспіс імя Святога Губерта, які існуе ў горадзе над Нёманам ужо 11 гадоў, сутыкнуўся з праблемай недахопу месца для працы з пацыентамі. Улады не дапамаглі, але надзея пакуль не страчана.*

*Карэспандэнт «Народнай Волі» наведаў хоспіс і даведаўся аб яго рабоце, праблемах, пошуках і планах на будучыню.*

## Аб праблемах

Хоспіс месціцца ў будынку дзіцячай паліклінікі, на першым паверсе. Тут працуюць сем спецыялістаў, і ёсць толькі два кабінеты, а паслугамі хоспіса карыстаюцца больш за 50 дзяцей-інвалідаў. У такіх умовах якасна аказваць паслугі вельмі складана.



Дырэктар **Вольга Вялічка** *(на фота)* праводзіць мяне па хоспісе. Сапраўды, месца спецыялістам для працы вельмі мала. Яна распавядае, што калі прыходзіць шмат дзетак, то ўзнікае праблема нават з тым, дзе іх пасадзіць і пакласці.

*«Дзеці, як правіла, у нас з цяжкімі формамі інваліднасці і патрабуюць індывідуальнага падыходу,* – канстатуе Вольга Віктараўна. – *А індывідуальны падыход патрабуе цішыні, зачыненых дзвярэй, утульнасці...»*

Улетку Вялічка разам з калегамі была на прыёме ў старшыні Гродзенскага гарвыканкама, прасілі прадаставіць ім у бязвыплатнае карыстанне большы па плошчы будынак для расшырэння хоспіса. Нядаўна атрымалі пісьмовы адказ: адмоўлена.

*«Аргумент быў такі: паводле ўказа прэзідэнта, дзіцячы хоспіс не ўваходзіць у пералік юрыдычных асоб, якім дзяржаўная нерухомасць можа перадавацца ў бязвыплатнае карыстанне»,* – пераказвае ліст з гарвыканкама дырэктар хоспіса.

Чыноўнікі прапанавалі хоспісу аж тры будынкі ў горадзе, якія можна арандаваць альбо купіць з аўкцыёну. Але гэта не стасуецца з самой ідэяй існавання такой медыка-сацыяльнай установы.

*«Мы існуём на ахвяраванні людзей, і іх грошы павінны ісці на дапамогу дзецям, а не на набыццё будынка,* – падкрэслівае Вольга Віктараўна. – *І гэта наша прынцыповае стаўленне. Шкада, што ў нашай краіне чыноўнікам трэба гэта тлумачыць».*

Са слоў Вольгі Вялічка, яна неаднойчы запрашала наведаць хоспіс і чыноўнікаў, і дэпутатаў, і кандыдатаў у дэпутаты, але ніхто з іх не выказаў ніякай цікавасці.

*«Больш таго, калі мы складалі петыцыю да ўлад, то папрасілі рэкамендацыйныя лісты ад нашых партнёраў за мяжой, і тыя запрасілі гродзенскіх чыноўнікаў наведаць хоспіс у Літве,* – узгадвае спадарыня Вялічка. – *Дакладна ведаю, што туды яны ездзілі, а вось да нас ніхто наведацца не рашыўся. Чаму?»*

Гродзенцы, даведаўшыся аб гэтай праблеме, узялі актыўны ўдзел у стварэнні петыцыі да абласных улад і Адміністрацыі А.Лукашэнкі, з тым каб дзіцячаму хоспісу выдзелілі будынак у бязвыплатнае карыстанне. Пад петыцыяй падпісаліся больш як паўтары тысячы чалавек.

У хоспісе не губляюць надзеі, што ўлады неяк выправяць сітуацыю, і працягваюць сваю нялёгкую працу.

## Новыя праекты

Нягледзячы на тое, што кожны дзень працы ў хоспісе вымагае ад спецыялістаў непамернага напружання сіл, калектыў увесь час у пошуку новых формаў паліятыўнай дапамогі сваім пацыентам. Вольга Віктараўна ўпэўнена: паслугі ў сацыяльнай сферы сёння павінны таксама быць інавацыйнымі, з выкарыстаннем новых тэхналогій і дасягненняў навукі.

*«За апошнія два гады мы распрацавалі тры новыя паслугі і даслалі свае прапановы ў Гродзенскі аблвыканкам»,* – распавядае дырэктар.

Першая паслуга тычыцца рэабілітацыі дзяцей у хатніх умовах, калі яны не ў стане даехаць у хоспіс альбо іншую ўстанову аховы здароўя. Праграма даволі шырокая і мае на мэце падрыхтоўку бацькоў такіх дзетак, каб яны маглі аказваць на месцы адпаведную дапамогу.

Другая паслуга: псіхалагічная падтрымка. Вольга Вялічка канкрэтызуе:

*«У гэтым шырокім паняцці мы знайшлі важны накірунак і прапануем у якасці паслугі «сенсорную дыету». Дзеці з цяжкімі захворваннямі часта пакутуюць на недахоп сенсорыкі, і менавіта праз працу з рукой, нагой у дзетак фарміруюцца сенсорныя эталоны. Мы падгледзелі гэты інструмент у нашых калег за мяжой і цяпер выкарыстоўваем у сваёй практыцы».*

Яшчэ адна паслуга, якую распрацавалі спецыялісты хоспіса, – сацыяльная адаптацыя. Зусім новы праект, які распачаў хоспіс, – працаўладкаванне людзей з інваліднасцю. Вольга Віктараўна кажа, што на гэта яны атрымалі грант ад Амбасады ЗША ў Беларусі. Ужо ствараецца сацыяльнае прадпрыемства па пашыве адзення для інвалідаў, дзе будуць працаваць у большасці людзі з абмежаванымі магчымасцямі. Прыбытак ад дзейнасці прадпрыемства таксама плануецца накіроўваць на патрэбы хоспіса.

*«Пэўны час мы вывучалі вопыт падобных прадпрыемстваў, а зараз набіраем людзей з абмежаванымі магчымасцямі для працы,* – распавядае Вольга Віктараўна. – *Праўда, як і што атрымаецца, казаць пакуль рана. Але мы спрабуем нешта рабіць і ў гэтым накірунку».*

## Паслугі за ахвяраванні

Праца ў хоспісе навучыла Вольгу Вялічка адной простай рэчы: калі ёсць праблемы – трэба шукаць магчымасці іх вырашаць. Дзіцячы хоспіс ужо пачаў дапамагаць не толькі сваім маленькім пацыентам, але і дарослым з анкалогіяй, іхнім сваякам, бацькам, якія не спраўляюцца з дзецьмі, бабулям і дзядулям, якія маюць праблемы з унукамі, людзям пасля інсульту.

Вольга Віктараўна заўважае: хоспіс – некамерцыйная арганізацыя, таму не можа аказваць платныя паслугі. Доўга раіліся з юрыстамі і знайшлі выйсце: новы від дапамогі ўпершыню ў Беларусі будуць аказваць за ахвяраванні.

*«Вось прыходзіць чалавек, ён разумее, што яму аказваецца паслуга, але будзе сам выбіраць, ахвяраваць ці не ахвяраваць,* – тлумачыць новую схему Вольга Віктараўна. – *Гэтыя ахвяраванні будуць накіраваны на патрэбы хоспіса, цяжкахворых дзяцей».*

Ніхто з персаналу не кантралюе, ці ахвяруюць людзі грошы, але сродкі ў скарбонцы ўжо ёсць. І яны накіроўваюцца на набыццё медыкаментаў, абсталявання, на аплату камунальных паслуг і на заробкі калектыву.

## «Тут усё пра жыццё як яно ёсць...»

Акрамя новых праектаў тут амаль штодня ладзяцца тыя ці іншыя мерапрыемствы, у якіх бяруць удзел цяжкахворыя дзеці і іх бацькі. У дзень, калі карэспандэнт «Народнай Волі» наведаў хоспіс, актыўна вялася падрыхтоўка да Дня людзей з інваліднасцю, які адзначаецца ва ўсім свеце 3 снежня.

Вольга Віктараўна кажа, што ў Беларусі гэты дзень ператварылі ў нейкае незразумелае свята з падарункамі, салодкімі сталамі, з песнямі. Хаця ААН задумвала гэты дзень як інфармацыйны, каб усе ўсведамлялі, што побач жывуць людзі з інваліднасцю, якія маюць такія самыя правы і свабоды, як і ўсе астатнія.

У хоспісе да гэтага дня рыхтуюць мастацкую выставу. Разам з гродзенскай мастачкай Ірынай Варкулевіч маленькія пацыенты працуюць над стварэннем на халстах копій карцін Казіміра Малевіча, якія плануюць выставіць у адной з гарадскіх галерэй.

*«Я ўжо бачу, як гэта будзе выглядаць, і перакананa, што тыя, хто паглядзіць гэтыя карціны, ніколі не зразумеюць, што іх намалявалі дзеці з інваліднасцю»,* – упэўнена Вольга Віктараўна.

Хоспіс стараецца ўвесь час быць у актыўным стане, і гэта ўдаецца перш за ўсё таму, што калектыў, які тут працуе, добра разумее ідэю такой установы.

*«Мы тут не дапамагаем хаваць і плакаць. Тут усё пра жыццё якое яно ёсць,* – сцвярджае дырэктар хоспіса. – *У нас цяжкахворыя дзеці не ныюць. Вось да іх прыйшла мастачка – яны малююць і шчаслівыя. На наступным тыдні будуць іншыя мерапрыемствы – і яны таксама рады гэтаму».*

Вольга Віктараўна згадвае словы свайго ўлюбёнага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча: *«Рабі нечаканае, рабі, як не бывае, рабі, як не робіць ніхто, – і тады пераможаш».*

*«Гэта пра мой характар, маю прыроду. Мы ў нашым калектыве любім спалучаць неспалучальнае, рабіць менавіта так»,* – падсумоўвае дырэктар гродзенскага хоспіса імя Святога Губерта.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЗА ПРОХОДНОЙ

# «Атлант» остался без директора

*Пару недель назад генерального директора ЗАО «Атлант»* ***Виктора Шумило*** *отправили на пенсию – он отработал почти 18 лет. Замминистра промышленности* ***Сергей Мартинович*** *вручил ему на прощание почетную грамоту Министерства промышленности.*

Сейчас обязанности гендиректора ЗАО «Атлант» исполняет заместитель гендиректора по корпоративному развитию и финансам **Дмитрий Соколовский.**

Недавно Минский завод холодильников перешел на четырехдневную рабочую неделю, а пятница была объявлена днем простоя.

*«План работы в следующих месяцах будет зависеть от спроса на нашу технику»,* – говорят на предприятии.

*«Простои – непопулярное управленческое решение, но, учитывая нынешнюю экономическую ситуацию, оно является наиболее оптимальным. Так мы можем сэкономить энергоресурсы, средства фонда оплаты труда и не ставить продукцию на склад»,* – сообщила корпоративная газета компании «Атлант».



Почему завод оказался в такой ситуации?

*«Холодильники – сезонный товар,* – говорят на заводе. – *И летом их продажи гораздо выше. В России, которая является основным рынком сбыта белорусских холодильников и стиральных машин, магазины перенасыщены бытовой техникой, в том числе и более дешевой...»*

Сейчас завод делает ставку на выпуск так называемых «африканских холодильников». Недавно белорусские специалисты представили новейшую разработку – холодильники, которые могут работать на солнечных батареях.

*«Год назад нам поступило предложение разработать холодильник для регионов, где есть перебои с электроснабжением,* – рассказал корпоративному изданию «Атланта» главный конструктор ЗАО «Атлант» **Константин Сержанов**. – *Эта идея нам показалась интересной... Сейчас мы работаем над созданием морозильника со снабжением от солнечных батарей. Уже получили опытный образец и положительные результаты испытаний. Активно идут работы по холодильнику от солнечных батарей со стеклянной дверью».*

**Галина РУТ.**
Фото tut.by.

ЗАКУЛІССЕ



Зміцер Дашкевіч перамог адразу ў двух спаборніцтвах.



# Зміцер Дашкевіч – сапраўдны снайпер!

Пару дзён таму ў адным са сталічных кафэ прайшоў кубак па стральбе, прысвечаны памяці генерала, дэпутата Палаты прадстаўнікоў другога склікання ***Валерыя Фралова***. Ён пайшоў з жыцця пяць гадоў таму – падвяло сэрца. Валерыя Дзмітрыевіча, які ляжаў на падлозе ў здымнай кватэры, раніцай знайшоў сын...

«Я нядаўна перабіраў нейкія рэчы і знайшоў старыя відэакасеты, – *распавядае* ***Дзмітрый Валер'евіч Фралоў.*** – Відэамагнітафона ў мяне няма, і я папрасіў знаёмага, каб ён алічбаваў запіс. Аказалася, што на касеце – запіс святкавання 50-годдзя бацькі. Гэта быў жнівень 1997 года. Я тады сам здымаў усё, што адбывалася. Мы святкавалі ў Гродне, у нас быў вялікі дом. Бацька любіў сабраць народ, пагутарыць, у нас былі накрыты сталы. У асноўным, канешне, была ўся радня… І недзе ў другой палове ўрачыстасці я падахвоціўся сказаць слова. Мне тады было 25 гадоў. Я пажадаў здароўя-шчасця і сказаў: самае галоўнае, што можа даць бацька сыну, – гэта ўласны прыклад. І паабяцаў, што буду старацца быць падобным на бацьку.

І вось я пераглядаў гэты запіс і думаў: а ці сапраўды я браў прыклад з бацькі, як і што я рабіў, радаваўся б ён сёння за мяне ці не? Я пераймаў яму ў нейкіх пытаннях больш, напэўна, знешне. І зусім нядаўна ў мяне з'явіўся зусім іншы інтарэс да яго, мне стаў цікавы вобраз мыслення бацькі, яго стыль кіраўніцтва, асабістыя якасці. Ён вельмі шанаваў у людзях сумленнасць, добрасумленнасць, смеласць. У самога яго ўсё гэта было запраўлена яшчэ і своеасаблівым армейскім пачуццём гумару.

Пяць гадоў прайшло, як няма бацькі. Але людзі яго ўсё роўна памятаюць. Мне здаецца, гэта дарагога варта.

Бацька не пакінуў мне ніякай матэрыяльнай спадчыны – кватэр, дач, рахункаў. Але пакінуў больш важныя рэчы: магчымасць вось такіх сустрэч з цікавымі людзьмі...»

*Былы бізнесмен* ***Сяргей Скрабец*** *сябраваў з генералам Фраловым.*

«Я часта яго ўспамінаю, – *кажа Скрабец.* – Да таго як Фралоў стаў хуліганіць у парламенце, у яго было вельмі шмат сяброў. Якія потым яго імкнуліся выхоўваць. Але на самай справе гэта ён многіх выхоўваў...

Такіх людзей, як Фралоў, мала. Ён рэальна бяссрэбранік быў! У яго быў дом добры ў Гродне – ён яго прадаў і ўсё ўклаў у палітыку.

У Валерыя Фралова была магчымасць добра сядзець на беразе з вудай і, пакурваючы, паглядаць па баках. У яго была пенсія генеральская, потым – дэпутацкая. Здавалася б, што яшчэ трэба? А ён усё шашкай размахваў… Дарэчы, ён у свой час сам танкі прыстрэльваў. І страляць любіў...»

*Палітык* ***Мікалай Статкевіч*** *таксама не першы год прыходзіць на турнір па стральбе, прысвечаны Валерыю Фралову.*

«Шмат беларусаў – зашуганыя, – *гаворыць Статкевіч.* – А Фралоў быў адметны і каштоўны тым, што не быў зашуганы. Ён быў вольны, не сагнуты. Ён быў моцнай і гучнай асобай, ён ніколі не хаваўся.

Кажуць, што смеласць – гэта справа трэніроўкі. Але яшчэ і справа прыкладу. Фралоў даваў прыклад свайму асяродку. Без такіх прыкладаў зашуганасць робіцца нормай. Нам не хапае сёння вас, Валеры Дзмітрыевіч. І памяць пра вас – яна жыве!».

*Пераможцам кубка па стральбе, прысвечанага Валерыю Фралову, стаў* ***Зміцер Дашкевіч.*** *Ён перамог адразу ў двух спаборніцтвах – і ў стральбе з пісталета, і ў стральбе з аўтамата. Сапраўдны снайпер!*

*Дарэчы, на турнір Зміцер прыйшоў з двума дзецьмі – пяцігадовай Марай і трохгадовым Давідам (на фота). Яны былі вельмі шчаслівыя, калі тату далі прызы.*

«Другі дзень падарункі з рук не выпускаюць!» – *смяецца Зміцер.*

**Марына КОКТЫШ.**

Фота прадастаўлена «Белгазетай».



Дзмітрый Фралоў.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# А што за фасадам?

## *Карэспандэнт «Народнай Волі» пацікавіўся, як ідзе будаўніцтва фермерскага рынку пад Мінскам.*

Рынак месціцца на выездзе са сталіцы па Лагойскім тракце, ля вёскі Валяр'янава. На пашпарце аб'екта значыцца: «Пачатак будаўніцтва – 3 верасня 2018 года. Заканчэнне будаўніцтва – 31 мая 2019 года». На вуліцы ўжо лістапад, але работы, як высветлілася, яшчэ воз і маленькі вазок…

У красавіку ж гэтага года ў пасланні да парламента і беларускага народа Аляксандр Лукашэнка, можна сказаць, анансаваў грамадскасці гэты праект: «*Вы, напэўна, заўважылі, хто ездзіць па Лагойскім тракце: Ісачэнка* (старшыня аблвыканкама Анатоль Ісачэнка. – **Аўт.**) *будуе новы рынак – ён будзе называцца «Экарынак». Я яму даручыў сабраць там выключна чыстыя прадукты, каб прывучыць наша насельніцтва.*

*Мы прызвычаіліся да таго, што ў нас добрая сельскагаспадарчая прадукцыя, гэта праўда. Але трэба сабраць самую чыстую ў экалагічных адносінах прадукцыю… Туды ўсе могуць прыехаць і прадаць сваю чыстую прадукцыю. А гэта іншыя цэны і іншая рэнтабельнасць. Але і кантроль: туды не прарвешся з традыцыйнай прадукцыяй».*

Амаль у той жа час, калі беларускі кіраўнік выказаўся пра гэты рынак, некаторыя чыноўнікі з Мінаблвыканкама аптымістычна выказаліся, што аб'ект запланавана здаць у эксплуатацыю ўжо ў гэтым годзе. Відаць, паспяшаліся.

…Сам будынак даволі габарытны – яго агульная плошча каля 20 тысяч квадратных метраў. Будуць чатыры паверхі, побач – стаянка больш як на 600 месцаў, дзіцячыя пляцоўкі. На першым паверсе плануецца рынак з 249 гандлёвымі месцамі, на верхніх – офісы і магазіны.

Знешне ўсё як быццам ужо даведзена да ладу. Прыгожы фасад, на цэнтральным уваходзе аб'ява, якая запрашае будучых арандатараў да супрацоўніцтва. Рабочыя адной камерцыйнай фірмы ўкладваюць плітку і кажуць, што да маразоў працу закончаць.

А вось унутры будынка, што называецца, яшчэ конь не валяўся.

«*Добра, калі да наступнага лета аб'ект будзе цалкам гатовы*, – робіць прагнозы адзін з будаўнікоў. – *Тут жа даўгабуд быў, проста стаяў каркас. Зараз наша фірма робіць дэмантаж бетонных канструкцый, а да ўнутранай аздобы яшчэ далёка.*

*Адным словам, ідуць падрыхтоўчыя работы. Наколькі мне вядома, будынак першапачаткова быў пабудаваны з парушэннямі, таму ўсё даводзіцца перарабляць. Бетон рэжам, як той галандскі сыр».*



Інвестарамі праекта выступілі чатыры прадпрыемствы – УП «Агракамбінат «Ждановічы», ААТ «Агракамбінат «Дзяржынскі», ТАА «Велес-Міт» і ААТ «Мінскі малочны завод №1». Паводле некаторай інфармацыі, у будаўніцтва экалагічнага рынку ўжо інвеставана каля 10 мільёнаў рублёў.

«*Пакуль немагчыма казаць пра дакладныя тэрміны таго, калі рынак запрацуе*, – распавядаюць мне ў прэсслужбе Мінскага аблвыканкама. – *Быў складаны праект, часам прасцей нешта пабудаваць з нуля, чым перарабіць недабудаванае*».

Як вядома, на рынку будуць прадаваць фермерскія і экалагічна чыстыя прадукты (садавіну і гародніну, малочную і мясную прадукцыю). Цэны, паводле некаторых прагнозаў, будуць амаль у два разы вышэйшыя, чым у магазіне. Але ўся прадукцыя будзе праходзіць абавязковую сертыфікацыю ў спецыяльнай лабараторыі.

«*Я даволі стрымана стаўлюся да таго, што на гэтым рынку будуць прадаваць, як кажуць, суперчыстыя прадукты*, – кажа кіраўнік фермерскай гаспадаркі «Пан Ежы» **Юрый Іваноўскі**. – *Справа ў тым, што ў звязку з гэтым праектам у асноўным робяць акцэнт на праверку ў «спецыяльнай лабараторыі», але ж яна не мае сертыфікацыі «ЭКА». Такая маркіроўка ставіцца на многіх еўрапейскіх чыстых таварах, а ў нас такой лабараторыі пакуль проста няма.*

*Таму, мяркую, большасць прадукцыі на «Экарынку» не будзе адпавядаць усім экалагічным нормам земляробства. Напрыклад, зробяць аналіз на ўтрыманне пэўных элементаў, але ж ёсць еўрапейскія і сусветныя стандарты праверкі прадукцыі на экалагічнасць. І там маецца цэлы шэраг паказчыкаў, якім яна павінна адпавядаць*».

У той жа час фермер адзначае і станоўчыя бакі: маўляў, ужо добра, што на рынку лабараторыя будзе правяраць прадукцыю.

«*Тая сістэма, якая дазваляе атрымаць сертыфікацыю тавараў, каб патрапіць у магазін, зусім нікчэмная*, – тлумачыць мой суразмоўца. – *Скажам, мне неабходна задэкларываць 50 тон пекінскай капусты. Я аддаю ў лабараторыю 3 кілаграмы, тавар правяраюць і выдаюць мне дакументы на ўсю партыю. Гэта недасканалая сістэма, бо затым можна прадаваць з гэтымі дакументамі любы тавар. Хаця ў Польшчы амаль у кожным супермаркаце ёсць лабараторыя, якая правярае прадукцыю*».

Юрый Іваноўскі адзін з першых у Беларусі заняўся экалагічна чыстым земляробствам, але кажа, што «Еўрарынак» для яго не вельмі прывабны.

«*Я займаюся толькі вытворчасцю, а сваю прадукцыю аддаю дыстрыб'ютарам*, – дадае фермер. – *Але новы фермерскі рынак – гэта добра. Няхай будзе ў сталіцы яшчэ адна «Камароўка»…*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РАКУРС

# «Среди реконструкторов такой же процент убийц, как среди журналистов»

*Дело доцента Санкт-Петербургского государственного университета* ***Олега Соколова****, подозреваемого в убийстве своей студентки и, возможно, любовницы Анастасии Ещенко, всколыхнуло интернет. Дело не только в самой сути произошедшего: преподаватель вступает в связь с девушкой, во многом зависящей от него, – но и в специфике научной деятельности Олега Валерьевича и его хобби. Историк Соколов считается крупным специалистом по армии Наполеона, а в свободное от научно-педагогической деятельности время он активно участвовал в так называемом реконструкторском движении – воспроизведении в реальном времени крупных военных событий. И в этом качестве неоднократно бывал в Беларуси.*

*По нашей просьбе на вопросы «Народной Воли» ответил* ***Алексей Гурский****, заместитель председателя совета общественного объединения «Военно-историческое единство», вице-президент Международной военно-исторической ассоциации, организатор фестивалей «Мир 1812» и «Березина 1812».*

**– Алексей, вам ведь доводилось общаться с Олегом Соколовым в связи с общностью увлечений – реконструкцией событий прошлого. Какое впечатление он на вас производил?**

– В самом начале хочу выразить соболезнования родственникам бедной Насти. На самом деле им сейчас хуже всех. Жалко девушку. Большая потеря не только человека, но и потенциально сильного ученого.

О Соколове должен сказать, что это большой ученый. Энциклопедически образованный по своей теме. Полиглот. Харизматик. С одной стороны. С другой – очень сложный человек, с которым трудно было дружить и сотрудничать.

**– В чем именно сложность заключалась?**

– Он не считал себя реинкарнацией Наполеона. Это чушь. Он надевал генеральский мундир, но никак не одежду Бонапарта. И за 12 лет знакомства я ни разу не видел Соколова в образе Наполеона. Он просто считал себя императором. А мы – нет. И это противоречие затрудняло общение.

**– Вы хотите сказать, что он был безумцем?**

– Ничуть. Он считал, что создал военно-историческую реконструкцию и обладает исключительными правами на это движение как минимум в рамках «Наполеоники». Более того, какое-то время он фактически был лидером всего движения реконструкторов наполеоновских войн в СНГ.

Потом его влияние сильно ослабло, и он не мог с этим смириться, пытался продолжать всем руководить. Но его перестали воспринимать как единственный авторитет.

**– То есть, говоря о том, что он считал себя императором, вы не имеете в виду, что он буквально считал себя императором Франции либо другого государства?**

– Конечно.

**– Но если он был психически здоровым человеком, то можете ли вы, зная его, общаясь с ним, предположить, что он действительно пошел на убийство своей студентки?**

– Это не первая подобная история в моей жизни. Я неплохо знал убитую несколько лет назад руководительницу Минского клуба лучников Анну Сердечкину и ее убийцу. Помните, было такое громкое дело? С тех пор я могу предположить, что кто угодно может убить кого угодно.

Но давайте будем разделять бытовое убийство, которых в той же России каждый год случаются тысячи, и историю с реконструкцией. СМИ пытаются сделать из этого сенсацию. Как будто то, что Соколов был реконструктором, как-то влияет на ситуацию. Интересно, если бы он был чемпионом СНГ по рыбной ловле, вызвало бы это такой ажиотаж? Или был бы он известным коллекционером почтовых марок…

**– Нет.**

– Ну вот. А так – везде его портреты в генеральском мундире. Из него делают какого-то фрика. Про то, что до суда никто не может считаться виновным, я вообще молчу.

Если он убийца, он должен сидеть в тюрьме. Долго. Как и любой другой убийца вне зависимости от своей профессиональной деятельности и увлечений.

**– Алексей, вам не кажется, что такое повышенное внимание к увлечению доцента Соколова вызвано как минимум двумя факторами. Первый – на поверхности: Наполеон. Мания величия, связанная с Наполеоном, зафиксирована в XIX веке и не проходит до сих пор. Помните, в «Кавказской пленнице»: «Где у нас прокурор?» – «В шестой палате, там же, где и Наполеон».**

**А второй фактор не столь очевидный и не столь безобидный, на мой взгляд. Движение реконструкторов стало объектом повышенного внимания после того, как стала известна роль его активиста Игоря Гиркина (Стрелкова) в событиях на Донбассе. Отсюда попытка прессы рассмотреть реконструкторство как некую структуру, управляемую спецслужбами.**

– Ну, что касается мании величия – у многих успешных людей гипертрофированное чувство собственной значимости. Соколов был болен звездной болезнью – это правда, но это нередкое явление среди тех, кто многого достиг.

Теперь про спецслужбы. Есть такой господин – Марк Шнайдер из США. Он на всех мероприятиях по «Наполеонике» выходит исключительно в образе Наполеона. К нему обращаются «сир», он может наградить кого-то репликой исторической награды и т.д. Он что, тоже агент ЦРУ?

Реконструкция – это хобби. В хобби представлен весь срез общества. Скажем, среди нас есть те, кто спасает детей. Например, в этом году почетной грамотой был награжден активист-реконструктор Николай Турко, спасший младенца, едва не утонувшего в Комсомольском озере.

**– Человек, спасающий детей, не ассоциируется с войной на Донбассе и с убийством в Петербурге.**

– Верно. Я говорю о том, что реконструкторы по своему составу представляют срез общества. Если в России какой-то процент уехал воевать на Донбасс, значит, такой же процент реконструкторов может принять участие в этом конфликте.

**– А белорусские реконструкторы принимали участие в этом конфликте?**

– Не знаю таких случаев. Но в Беларуси процент тех, кто принял участие в этом конфликте, в принципе ниже в разы.

**– А с Гиркиным вам лично доводилось встречаться во время реконструкторских акций?**

– Нет. Но с его клубом я знаком.

**– Вы сами каким периодом истории занимаетесь как реконструктор?**

– Ну, и я представляю Великую Армию, поэтому нам труднее пересечься. На данный момент это конец XIV – начало XV века, XVII век, «Наполеоника».

**– То есть вы присутствовали при переходе Наполеона Соколова через Березину?**

– Я организовываю этот фестиваль вместе со своими товарищами. И присутствовал при этом переходе неоднократно.

**– А вообще белорусские реконструкторы какой тематикой в основном увлекаются?**

– Всеми. Мы ничем не отличаемся от международного сообщества. От римлян и до Второй мировой.

**– Следуя вашей логике, можно ожидать, что среди наших реконструкторов когда-нибудь – как и во всем обществе – может появиться свой Цезарь, который последует примеру петербургского Наполеона?**

– Или среди журналистов появится свой Йоган Унтервегер *(популярный австрийский телеведущий, оказавшийся маньяком-душителем.* – **Ред.***)*. Все это не имеет отношения к хобби или профессии.

**Александр ФЕДУТА.**



**На фотографии: Алексей Гурский в костюме офицера 17-го уланского полка, сформированного из выходцев с белорусских земель и воевавшего в составе наполеоновской армии.**

